## Даты і падзеі ў сакавіку

**1 сакавіка** — 80 год з дня заснавання Мангольскай народна-рэвалюцыйнай партыі.
**2 сакавіка** — 70 гадоў з дня нараджэння М.С.Гарбачова.
**3 сакавіка** — 140 гадоў з дня адмены прыгоннага права ў Расіі.
***4 сакавіка** — 80 год назад* У.І.Ленін напісаў артыкул "Міжнародны дзень работніц".
**5 сакавіка** — 105 гадоў з дня нараджэння Кандрата Крапівы: — *беларускага пісьменніка.*
**8 сакавіка** — Міжнародны жаночы дзень.
**10 сакавіка** — 140 гадоў з дня смерці Т.Р.Шаўчэнкі, украінскага *паэта, мастака, рэвалюцыйнага* дэмакрата.
**18 сакавіка** — Дзень Парыжскай Камуны. 130 год з дня пачатку ўзброенага паўстання пралетарыяту ў Парыжы.
**25 сакавіка** — 83 гады з дня абвяшчэння (1918 г.) Незалежнай і вольнай Беларускай Дзяржавы — БНР (Беларускай Народнай рэспублікі).

## Сельдэрэй людзей бадзёрыць

Сельдэрэй асабліва карысны людзям "у гадах". У даўнія часы хадзіла прымаўка сярод жанчын: "Каб муж у ложку быў мілей, кладзі яму ў ежу штодня сельдэрэй".

Ён карысны пры хваробах нырак, артрытах, склерозе сасудаў. Але многія не ведаюць, як вырасціць добрую расаду. Вось адзін з прыёмаў яе вырошчвання.

Наліць у эмаліраваную каструлю гарачай вады (50°С), а ў другой трымаць вар. У першую апусціць у мяшэчку насенне каранёвага сельдэрэю на 20 хвілін. Сачыць за астываннем вады. Як толькі яна пахаладнее на 3-4 градусы — падліць вару, каб зноў стала ў каструлі з насеннем 50°С.

Падагрэтае ў гарачай вадзе насенне адразу ж апусціць у ваду пакаёвай тэмпературы (18-20°С). Калі *насенне* астудзіцца, дацьсцекчы вадзе і рассыпаць яго на газету, каб прасохла. А пакуль яно прасыхае, падрыхтаваць расадную скрыню з зямлёй. Добра выраўняць зямлю і змачыць падагрэтай вадою. Насенне раўнамерна рассыпаем па паверхні зямлі і ні ў якім разе не засыпаем яго зямлёю, бо сельдэрэй — такая культура, якая прарастае на святле. А калі засыпаць насенне зямлёю, яно нават не прарасце! Памятайце гэта.

Скрыню накрыць празрыстай плёнкай і паставіць у цёплае месца. А як з'явяцца парасткі, тады ледзь-ледзь прысыпаеце іх глебай. Усходы з'яўляюцца праз тыдзень — другі.

Вырошчваць расаду пры тэмпературы 20-25°С. Сеяць *насенне* лепш за ўсё сёлета 17-18 сакавіка. Пікіроўку расады рабіць, калі ўжо будзе 2 сапраўдных лісцікі. Высаджваць на градкі трэба будзе ў траўні месяцы ў спрыяльныя па календару дні. А каляндар будзе надрукаваны ў першым ж нумары газеты ў траўні ці ў апошнім у красавіку.

## Вішня і сліва не пладаносяць? Зрабіце, як В.Панцялееў!

Шмат у каго часта бывае, што вішні і слівы цвітуць неймаверна багата, вясною стаяць усе ў белай кіпені, а пладоў не бывае, іншы раз нават не завязваюцца, а калі і завяжуцца, дык па канаплінцы вырастуць — і абсыпаюцца.

В.Панцялееў раіць (у часопісе "Хозяин", N 2, ст. 12) у такім выпадку на штамбах сліў і вішань, якія даюць пустаквецце, прадрэльваць па 2 адтуліны, якія потым забіваць лучынкамі і краі замазваць садовым варам. Ён рэкамендуе рабіць гэта вясною, каб дрэвы ўжо сёлета змаглі даць багаты ўраджай.

● *Карысны напой*

## Здаровы квас

Лекавыя ўласцівасці квасу былі вядомы ўсходнім славянам задоўга да Кіеўскай Русі. Ваяры князя Уладзіміра Чырвонае Сонейка пілі яго для бадзёрасці перад бітвай з печанегамі. Па сведчанню сучаснікаў, Напалеон вінаваціў у сваім паражэнні... квас, надаваўшы моц рускім салдатам. А на думку медыцынскіх "свяціл", напрыклад, М.І.Пірагова, цудадзейны напой спрыяе хуткаму зрастанню касцей пасля пераломy і агнястрэльных ран, амаложвае ныркі, замацоўвае скуру. М.В.Скліфасоўскі быў упэўнены, што квас абараняе печань ад цырозу, страўнікава-кішэчны тракт ад гастрыту, калітаў і язвенная хваробы.

Квас на мёдзе карысны для прафілактыкі прастудных захворванняў *і ангін, з разынкамі, багатымі каліем,* тым, хто пакутуе на сардэчна-сасудзістыя і нервова-мышачныя хваробы, а з мятай — тым, каго мучаюць бяссонніца, неўрозы, гіпертанія. Квас паляпшае апетыт і стравававанне, актывізуе страваваальныя залозы, стымулюючы выпрацоўку страўнікавага соку, жоўці. Ён яшчэ нібы прамывае страўнікава-кішэчны тракт, выводзячы з арганізму канчатковыя прадукты абмену. Гатуюць квас на дражджах ці на соладзе, асабліва багатых вітамінамі групы В. Выпіваючы па шклянцы ў дзень, вы папоўніце дэфіцыт вітамінаў і паспяхова размінецеся з авітамінозам.

## Як прыгатаваць квас

Нарэжце тонкімі кружочкамі лімон (лупіну здымаць не трэба, толькі старанна памыць): змяшайце з 400 г мёду, дадайце 400 г разынак, залейце ўсё гэта 4 л халоднай гатаванай вады, папярэдне размяшаўшы ў ёй сталовую лыжку жытняй мукі і 10 г дражджэй. Праз суткі ўлейце ў сумесь яшчэ літр гатаванай вады. Калі разынкі і лімон усплывуць — працадзіце вадкасць і разлейце па бутэльках (палажыце ў кожную некалькі разынак). Захоўвайце бутэлькі "лежачы" ў халадзільніку. Праз 2-3 дні квас можна піць.

## Вось другі рэцэпт

Размяшайце ў 5 л гатаванай вады 400 г мёду, астудзіце да пакаёвай тэмпературы, дабаўце сок лімона і 15 г дражджэй. Настойвайце 10-12 гадзін, разлейце па бутэльках. І пейце на здароўе!

## Каляндар работ у вясковай гаспадарцы і не лецішчы ў сакавіку 2001 года

| № п/п Від работ | Дні месяца | |
|---|---|---|
| | лепшыя | добрыя |
| 1. Пасеў перцу салодкага | — | 15, 16, 26, 31 |
| 2. —"— памідораў | 4в, 6р, 26, 31в | 1-4р, 12в-14, 24 |
| 3. —"— сельдэрэю каран. | 17-19р, 22-24р | 16, 24в, 27, 29р |
| 4. —"— кропу | 29в, 31р | 17, 19р, 26, 29р, 31в |
| 5. —"— цыкорыю | — | 26, 31 |
| 6. Пасадка часноку | 24в | 22, 23, 26-31 |
| 7. —"— маліны | 31 | 26-30 |
| 8. Пасадка парэчак чорных | 31в | 26, 31р |
| 9. —"— вішань, сліў, ігруш | 27-28 | 30, 31 |
| 10. —"— вінаграду | 29в, 31р | 26, 29р, 31в |
| 11. —"— шыпшыны | 27, 29р, 31в | 29в-31р |
| 12. Абрэзка дрэў | 25, 28 | — |
| 13. Прышчэпка | 1, 27, 28 | 2, 3, 29р, 31в |
| 14. Падкормка мін. угнаеннямі | 27-29р, 31в | 17-19р, 22-24р |
| 15. Секчы лес на будаўніцтва і на дровы | 25 | 20-24, 26-30 |
| 16. Купляць парасят | 31в | 1, 27-29р |
| 17. Забой жывёлы на мяса | 1-3, 29-31 | 4-9 |
| 18. Закладка кампосту ў штабялі | 12в, 14 | 22-24р |
| 19. Уборка двара, лецішча, добраўпарадкаванне | 19в, 21 | — |
| 20. Пасадка дэкаратыўных дрэў | — | 26, 31 |

**Заўвага:** у календары "р" азначае "раніца", ад 0 да 12 дня, "в" — "вечар", ад 12 гадзін дня да 24.

## "Беларускі Усход" — ваша газета, паважаныя чытачы!

Ідзе падпіска на II квартал 2001 года. Газета распаўсюджваецца толькі па падпісцы! У шапіках (кіёсках) саюздруку гэтую газету не прадаюць.

Рэдакцыя папярэджвала падпісчыкаў, што магчыма павелічэнне кошту паперы, паслуг друкарні і іншых. Так яно і здарылася. Таму газета падаражала і цяпер яе падпісны кошт узрос. На другі квартал 2001 года ён будзе такім:

Для індывідуальных падпісчыкаў:

на 1 месяц — 319 рублёў,
на 2 месяцы — 638 рублёў,
на 3 месяцы — 957 рублёў.

Ведамасная падпіска:

на 1 месяц — 470 рублёў,
на 2 месяцы — 940 рублёў,
на 3 месяцы — 1410 рублёў.

### Мое обращение к подписчикам

Читай, народ,
"Беларускі Усход"!
Таких газет,
Где правды свет,
У нас больше нет!

**Василий КОТИКОВ.**

### Факты без каментару

Па прагнозах ААН, патрэбнасць чалавецтва ў электраэнергі да сярэдзіны XXI стагоддзя павялічыцца ў 4-6 разоў.

Кантроль за забруджваннем навакольнага асяроддзя аўтамабілямі ў краінах Еўропы паказаў, што летась яно ўзрасло на 15 працэнтаў.



*Хто каго перайграе? Выступаюць на сельскай сцэне бацька і сын Малімонавы з вёскі Асмолавічы Клімавіцкага раёна.*

**Фота Івана ЛАПО.**

● *Куток гаспадыні*

### Біфштэкс з бульбай

Мяса (ялавічыю выразку) абмыць, ачысціць ад сухажылляў, *нарэзаць упоперак валокан на кавалкі вагой прыкладна па 100-150 г,* злёгку адбіць, пасыпаць соллю, перцам, пакласці на вельмі гарачую з маслам патэльню ці неглыбокую каструлю і смажыць з двух бакоў да поўнай гатоўнасці (10-15 хвілін).

Гатовы біфтэшкс перакласці на блюда, паліць сокам і маслам, а на гарнір даць смажаную бульбу і абраны, прамыты, *нарэзаны* хрэн. Асобна можна падаць агуркі, пікулі ці салату.

### Біфштэкс з цыбуляй

Прыгатаваць выразку таксама, як і для біфштэкса з бульбай, за тым адрозненнем, што мяса трэба адбіць мацней, каб атрымаць больш тонкі і шырокі кавалак. Асобна падсмажыць у разагрэтым алеі абраную, абмытую і парэзаную кольцамі цыбулю (па 1/2 цыбуліны на порцыю). Падаючы на стол, пакласці на мяса смажаную цыбулю і паліць сокам і алеем. На гарнір — смажаная бульба.

● *Гаючая флора*

### Дыня

Рымскі імператар Клаўдзій штодзённа з'ядаў на сняданак восем дынь. Цар Аляксей Міхайлавіч, бацька Пятра І, меў пад Масквой *"дынных спраў майстроў", якія тут* у цяпліцах вырошчвалі гэтую дзівосную гародніну, улагоджваючы і радуючы цара.

На Ўсходзе кажуць: "Дыня робіць валасы бліскучымі, вочы маладымі, губы свежымі, жаданні моцнымі магчымасцямі, якія пераходзяць у дзеянні, мужчын жаданымі, а жанчын цудоўнымі".

Дыня здольна даспяваць пры захоўванні. А ўласцівасці вяленай і сушанай дыні цалкам адпавядаюць свежай.

Дыня вылечвае ад малакроўя, падагры, мачакамянёвай хваробы, усіх захворванняў сардэчна-сасудзістай сістэмы, кішэчніка, печані.

Яшчэ Авіцэнна прапаноўваў для ўхілення рубцоў воспы адвар семак дыні. Яны ж — і цудоўны сродак для лячэння імпатэнцыі. Трэба насушыць семак, змалоць іх на кавамолцы і па адной чайнай лыжцы з'ядаць 3-4 разы на дзень.

А свежая дыня зніжае павышаную палавую ўзбуджальнасць. *Гэта павінны ведаць як мужчыны,* так і жанчыны, у якіх вельмі павышаны тэмперамент.

## Сакавік вясну пачынае

Сакавік — месяц, які любіць куралесіць. Вятрамі дзьме, снегам сее, сонцам грэе. І плача, і смяецца, а іншы раз і маразамі замахнецца.

Добры ўраджай будзе забяспечаны толькі пры ўмове, калі сакавік сухі, красавік дажджлівы, а травень — халодны.

**6 сакавіка** — Цімох. Раней лічылі: *"Дажыць да Цімоха-Веснавея, а там і зіма ўжо не страшная".* І прыгаворвалі: "Цімох-Веснавей — ужо й цяпло ля дзвярэй".

**12 сакавіка** — Пракоп-Перазімнік. Ён, казалі, дарогу разбурае.

**13 сакавіка** — Васіль Спаведнік, Васіль Капельнік, Васіль Цёплы. З гэтага часу растае снег на стрэхах, звісаюць з іх лядзяшкі. Калі на Васіля Цёплага сонца ў кругах — да ўраджаю, калі дождж ідзе — да мокрага лета.

**14 сакавіка.** Аўдокі, з гор пацёкі. "На Аўдокі пагожа ўсё лета прыгожа". Калі ў гэты дзень капялі са страхі — будзе цёплае лета. Калі Аўдокі з дажджом — быць мокраму лету. На Аўдокі вада — на Ягор'я (6 траўня) — трава. На Аўдокі холад — жывёлу прыйдзецца карміць два лішнія тыдні.

**22 сакавіка** — Саракі. Якое надвор'е на Саракі, такое яно будзе яшчэ 40 дзён; калі мароз — чакай надалей яшчэ сорак маразоў, калі дождж — чакай 40 дажджоў. Калі ў гэты дзень снег моцна растае, то будзе добрая вясна.

На Сораку прылятаюць жаўрукі і іншыя пералётныя птушкі, а пчаляры адзначаюць сваё свята.

**25 сакавіка** — Феафан Пралам і шэрань. Па гэтаму дню вызначалі, які будзе новы ўраджай. Калі туман — будзе валакністы лён.

**30 сакавіка.** Ляксей. У гэты дзень шчупак у рэчцы хвастом лёд разбівае.

Калі ў гэты дзень цёпла, то і вясна будзе цёплай. Снег хутка растае і вада цячэ дружна — чакай мокрага лета.

## Анекдоты

Міліцыянеры спрабуюць выцягнуць з лужыны п'янага марака. Той супраціўляецца і крычыць:

— Не! Спачатку ратуйце жанчын і дзяцей!

* * *

— Доктар, у мяне часта мерзнуць ногі!

— У мяне таксама мерзнуць, але толькі я ўкладваюся з жонкай у ложак, яны хутка саграваюцца. Прапаную паспрабаваць!

— А калі, выбачайце, можна застаць вашу жонку дома?

**"Беларускі Усход".** Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. На беларускай і рускай мовах.

**Заснавальнік** — працоўны калектыў рэдакцыі.

**Адрас:** в.Маркаўка, Хоцімскі р-н, Магілёўская вобл., 213670. Тэлефон галоўнага рэдактара 22-9-89.

**Рэгістрацыйны N 141.**

Падпісны індэкс — 64098.

Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.

За дакладнасць фактаў, падзеяў, прозвішчаў і іншай інфармацыі адказваюць аўтары апублікаваных матэрыялаў.

Газета падпісана да друку ў 24 гадзіны 28 лютага 2001 г. Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.

Наклад 3751 ас. Аб'ём І друк. аркуш. Заказ № 9.

**Галоўны рэдактар Васіль ДАЎГАЛЁЎ.**